# Еўропа для беларускіх дзяржаўных службоўцаў

1 Пашырэнне кантактаў з еўрапейскімі калегамі

2 Падвышэнне кваліфікацыі

3 Вызваленне ад выканання няпрофільных функцый



Беларускі Еўрапейскі Форум

# ЦІ ВЕДАЕЦЕ ВЫ, ШТО...

Еўрапейскі саюз мае спецыяльную праграму для супрацы з суседзямі на ўсходзе, у тым ліку і з Беларуссю. Гэта праграма Еўрапейскай палітыкі добрасуседства і Усходняга партнёрства.

Паміж 1991 і 2006 гг. Еўрасаюз выдаткаваў Беларусі на развіццё краіны 229 млн. еўра, ці 23,6 еўра на аднаго жыхара. Гэта значна менш, чым мелі іншыя краіны-суседзі Еўрасаюзу. Грузія атрымала прыкладна 110 еўра на чалавека, Малдова — 73, Украіна — 52.

Каб напоўніцу карыстацца з дапамогі Еўрасаюзу, Беларусь павінна падпісаць з ім Пагадненне аб партнёрстве і супрацоўніцтве, рэалізацыя якога была перапыненая ў 1996 г. праз парушэнні ў нашай краіне правоў чалавека і прынцыпаў дэмакратыі. Пасля таго як Беларусь далучыцца да гэтай праграмы, будзе распрацаваны План дзеянняў, індывідуальны для кожнай








краіны. На сённяшні дзень толькі 3 з 16-ці краінаў-удзельніц праграмы «Палітыка добрасуседства» не падпісалі аніводнага з трох асноўных дакументаў праграмы — гэта Беларусь, Лівія і Сірыя.

А між тым падтрымка Еўрасаюзам палітычных, эканамічных ды сацыяльных пераўтварэнняў у Беларусі можа значна палепшыць жыццё нашых грамадзянаў.



**Па-першае**, беларусы атрымаюць права наведваць краіны Еўрасаюзу без візаў, а таксама вучыцца там і працаваць.



**Па-другое**, падвысіцца эфектыўнасць працы дзяр-жаўнай і мясцовай адміністрацыяў, судовай сістэмы, мадэрнізуецца адукацыя, палепшыцца якасць медыцынскіх і камунальных паслугаў, дадатковую падтрымку атрымаюць рэгіёны і сем'і, пацярпелыя ад Чарнобыльскай аварыі.



**Па-трэцяе**, беларусам будзе гарантаваная абарона іх правоў і свабодаў. Рашэнні беларускіх судоў можна будзе аспрэчваць у найвышэйшых еўрапейскіх інстанцыях, а беларускае права і практыка правапрымянення нармалізуецца згодна з еўрапейскім заканадаўствам.

# ШТО АТРЫМАЮЦЬ АД ЕЎРАІНТЭГРАЦЫІ ДЗЯРЖАЎНЫЯ СЛУЖБОЎЦЫ?

## 1 Пашырэнне кантактаў з еўрапейскімі калегамі

Кожная з краінаў-партнёраў праграмы «Еўрапейская палітыка добрасуседства» сумесна з Еўрасаюзам распрацоўвае свой План дзеянняў, які вызначае канкрэтныя крокі, скіраваныя на пашырэнне супрацоўніцтва. Да прыярытэтных сфераў адносяцца: права, эканоміка, прадпрымальніцтва, занятасць насельніцтва і сацыяльная палітыка, гандаль, інфраструктура, навакольнае асяроддзе, прыродныя рэсурсы, ядзерная бяспека, ахова здароўя, унутраная бяспека.

Па ўсіх гэтых кірунках у адпаведных органах дзяржаўнай улады будуць сфармаваныя новыя структуры, адказныя за інтэграцыю з аб'яднанай Еўропай. Іх спецыялісты атрымаюць самыя шырокія магчымасці супрацы з сваімі калегамі з еўрапейскіх краінаў.

## 2 Падвышэнне кваліфікацыі

а) Еўрапейскі саюз ладзіць рэгулярныя прафесійныя семінары і стажыроўкі для спецыялістаў з краінаў-партнёраў. Ужо цяпер прадстаўнікі розных дзяржаўных установаў Беларусі бяруць удзел у праграмах, якія знаёмяць з дзейнасцю еўрапейскіх інстытутаў.

б) Для краінаў-партнёраў існуюць і адмысловыя праграмы «Twinning», у рамках якіх дзяржаўныя службоўцы беспасярэдне абменьваюцца досведам з еўрапейскімі калегамі. У свой час Польшча

зрэалізавала звыш 100 такіх праектаў, якія дазволілі падвысіць якасць працы ў дзяржсектары да ўзроўню еўрапейскіх стандартаў. У 2007—2008 гг. Украіне на рэалізацыю праектаў «Twinning» было выдзелена 23 млн. еўра.

## 3 Засваенне і выкарыстанне перадавых тэхналогій

У мэтах дасягнення максімальнай эфектыўнасці працы дзяржаўныя ўстановы краінаў ЕС забяспечваюцца самым высокатэхналагічным абсталяваннем, а іх супрацоўнікі атрымліваюць неабходную перакваліфікацыю, каб выкарыстоўваць перавагі сучасных інфармацыйных тэхналогій. Тое ж тычыцца і краінаў-удзельніц «Палітыкі добрасуседства».



## 4 Вызваленне ад выканання няпрофільных функцый

У выпадку пераходу на стандарты дзяржаўнай службы Еўрасаюзу, супрацоўнікі ўладных структураў Беларусі пазбавяцца ад шырока распаўсюджанай практыкі, калі ім даводзіцца вырашаць задачы, якія не адпавядаюць іх функцыям. Гэта значна падвысіць эфектыўнасць працы дзяржаўнага апарату, вырасце прафесійны ўзровень саміх службоўцаў.



## 5 Падвышэнне ролі рэгіянальных і мясцовых органаў улады

У еўрапейскіх краінах рэалізуецца канцэпцыя дзяржаўнай трансфармацыі пад назвай «Еўропа рэгіёнаў». Яе галоўнай мэтай з'яўляецца дэцэнтралізацыя кіравання, якая прадугледжвае перанос многіх функцый цэнтральных органаў улады на рэгіянальны і мясцовы ўзроўні. З гэтага апошнія атрымліваюць магчымасць:

- самастойна шукаць партнёраў і наладжваць з імі кантакты ва ўсіх рэгіёнах Еўропы;
- прыцягваць новыя інвестыцыі і тэхналогіі ў мясцовую вытворчасць;
- супрацоўнічаць з муніцыпалітэтамі еўрапейскіх гарадоў;
- наўпрост засвойваць досвед еўрапейскага самакіравання і тым самым падвышаць прафесійны ўзровень сваіх службоўцаў;
- наладжваць адукацыйныя і культурніцкія кантакты з заходнімі універсітэтамі ды культурнымі цэнтрамі.

## 6 Партнёрства ў сумесных міжнародных праграмах

Беларусь атрымала магчымасць удзельнічаць у трох такіх праграмах.



**Праграма «Латвія-Літва-Беларусь»**

Працягвае традыцыі трансмежнага супрацоўніцтва паміж Беларуссю, Літвой і Латвіяй, закладзеныя ў аднайменнай праграме добрасуседства на 2004 —2006 гг., у рамках якой з беларускімі партнёрамі зрэалізавана 14 праектаў.

Мэта праграмы — сацыяльна-эканамічнае збліжэнне розных краінаў рэгіёну праз пераадоленне нацыянальна-дзяржаўных падзелаў.

Агульны бюджэт — 41,7 млн. еўра.



**Праграма «Польшча-Беларусь-Украіна»**

Падтрымлівае трансмежнае супрацоўніцтва паміж Беларуссю, Польшчай і Украінай, распачатае ў аднайменнай праграме добрасуседства на 2004—2006 гг., у рамках якой з беларускімі партнёрамі зрэалізавана 7 праектаў. Стратэгічная мэта тая ж самая, што і ў выпадку праграмы «Латвія-Літва-Беларусь».

Агульны бюджэт — 186, 2 млн. еўра.

На працягу 2004—2006 гг. Беларусі на рэалізацыю праектаў у рамках вышэйзгаданых праграмаў было выдзелена каля 23 млн. еўра



**Праграма «Рэгіён Балтыйскага мора»**

Мэта праграмы — узмацненне канкурэнтаздольнасці балтыйскага рэгіёну, яго тэрытарыяльнага адзінства і ўстойлівага развіцця за кошт аб'яднання патэнцыйных магчымасцяў паўз адміністрацыйныя межы.

Агульны бюджэт — 236,6 млн. еўра.



« Цывілізацыйна, гістарычна і культурна Беларусь — неад'емная частка Еўропы.

Незалежнасць, дэмакратыя, росквіт і далейшае развіццё нашай Бацькаўшчыны наўпрост залежаць ад паспяховасці нашых намаганняў па інтэграцыі ў еўрапейскую эканамічную і палітычную прастору. Гэта гістарычны выклік для нашай краіны, уладаў і грамадзянскай супольнасці.

Я веру ў еўрапейскі шлях і будучыню Беларусі. »

Аляксандр Мілінкевіч
*старшыня Руху «За Свабоду»*

**Рух «За Свабоду»**
**www.milinkevich.org**
**п/с 148, Мінск, 220005**

**Аргкамітэт Беларускага Еўрапейскага Форуму**
**www.euraforum.info**

**Прадстаўніцтва Еўрапейскай Камісіі ў Беларусі**
**www.delblr.ec.europa.eu**



Беларускі Еўрапейскі Форум

Наклад 2000 ас. Замова №215.
Надрукавана на абсталяванні выдавецтва «Лорэнс-прэс», г. Смаленск